# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51 (1753) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 17 ТНЕЖНЯ 1989 г. ЦАНА 250 зл.


*З даследчыкам культурных сувязяў беларусаў з заходнімі і паўднёвымі славянамі Львом Мірачыцкім я сустрэўся ў Інстытуце сацыялістычных краін Польскай Акадэміі Навук, куды ён прыязджаў з Мінска па справах супрацоўніцтва з польскімі калегамі. Мне ж захацелася пагутарыць з ім пра кніжныя навіны, якія, спадзяюся, цікавяць і чытачоў „Нівы".*

## ЛЕЎ МІРАЧЫЦКІ: „ШЛЯХАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ..."

**Ю. Туронак:** Шаноўны Лёўка, сардэчна вітаю Вас у Варшаве. Хачу пачуць пра найбольш адметныя з'явы ў галіне славістыкі на Бацькаўшчыне.

**Л. Мірачыцкі:** Перш за ўсё, у сувязі з 500-годдзем з дня нараджэння Францішка Скарыны слыннага беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, мысліцеля-асветніка і гуманіста, вучонага і пісьменніка эпохі Адраджэння, якое шырока плануецца адзначаць у наступным годзе, я назваў бы энцыклапедычны даведнік „Скарына і яго час" і кнігу гісторыка і літаратара Аляксея Каўкі „Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатку XX ст.ст." Пра скарынінскі даведнік ужо выказваліся навукоўцы і журналісты ў друку, таму на ім спыняцца не буду. Кніга ж Аляксея Каўкі „Тут мой народ" нядаўна выйшла ў свет. Лічу, што пра яе трэба сказаць добрае слова, якога яна заслугоўвае. Гэта вельмі змястоўная праца, чытаецца з вялікай цікавасцю. Асоба Скарыны захапіла аўтара як з'ява айчыннай гісторыі, чые высокія гуманістычныя ідэі асвятлялі шлях Бацькаўшчыне і люду паспалітаму спрыялі пашырэнню асветы, заміласванню да роднай мовы, якая павінна жыць вечна, як і сам народ, выхоўваць пачуцці дабрыні і хараства, узбагачаць духоўна кожнае новае пакаленне.

Каштоўнасць кнігі і ў тым што ў ёй з улікам дарэвалюцыйных даследаванняў, найноўшых дасягненняў савецкага і замежнага славяназнаўства, а часта і палемізуючы з славістычным аўтарытэтамі, паказана эпоха Скарыны. Глыбока прасочваецца значэнне скарынаўскай ідэі служэння Бацькаўшчыне на перадавыя колы інтэлігенцыі краю, ягоны прыклад асветніка-

(Працяг на стар. 4)

## ПЕРШАЯ „СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНЯЙ"

Цікавую думку падказаў нашаму беларускаму руху Беластоцкі гарадскі аддзел Таварыства. Актывісты выступілі з прапановай рабіць рэгулярныя канцэрты розных нашых самадзейных калектываў у Галоўным праўленні на вул. Варшаўскай у Беластоку, назваўшы гэтыя канцэрты „Сустрэчы з беларускай песняй.

Першы такі канцэрт адбыўся 24 лістапада. Быў гэта не толькі вечар беларускай песні, але агляд мастацкай працы Беластоцкага аддзела. Выступілі — беластоцкі хор, яго салісты, удзельнікі музычнага дзіцячага гуртка, а таксама зусім новы маладзёжны гурт сучаснай музыкі.

Беластоцкі вялікі хор, яго жаночая і мужчынская групы, яго салісты — гэта ўжо вельмі спелы сур'ёзны калектыў. Вядзе яго ўжо доўгія гады Сцяпан Копа. І яго супольная з калектывам праца дае цудоўныя вынікі. Харысты беластоцкія — гэта ўжо амаль прафесіяналы, і ў пастаноўцы галасоў, і ў захоўванні на сцэне. Міла і прыемна было іх слухаць, на іх глядзець. Багата сярод харыстаў і салістаў. Каб усіх назваць іх — трэба было б пералічыць амаль палову хору. Памятаюць нашыя чытачы напэўна і Любу Гаўрылюк, і Юрку Налівайку, і дуэтныя групы Юркі Налівайкі з Сцяпанам Копам, Любы Гаўрылюк з Зінай Арцішэўскай ці з Верай Белай. Вельмі прыгожа спявалі ў дуэце Лідзія Янчук з Раісай Тынявіцкай. Вельмі сумная іх песня пра маці, што не дачакалася ча-

(Працяг на стар. 7)



*Дуэт: Лідзія Янчук і Раіса Тынявіцкая ў сумнай песні пра маці, у якой чатыры сыны не вярнуліся з вайны.*

## НЕДАКОНЧАНАЯ ПРАМОВА

**Стэнаграма выступлення пасла Яўгена Чыквіна на пасяджэнні Сейма 16 лістапада 1989 г.**

Пані маршалак! Высокая Палата!

Прадстаўлены сёння Высокай Палаце праект змены закона аб сацыяльным фондзе вёскі — гэта выкананне чарговых вырашэнняў „круглага стала", можна сказаць, выкупленне чарговага вэксаля гістарычнага кантракта.

Прапанаваныя ў законе змены, якія вынікаюць з абаснаванага на прынцыпах плюралізму новага юрыдычнага стану, не выклікаюць рознагалосся ці засцярог. Могуць яны толькі ў будучага даследчыка гісторыі нашага парламента выклікаць зацікаўленне фактам, што вядзецца ўжо чацвёрты раз дыскусія над спосабамі выкарыстоўвання цэнтральнага фонду, на якім да гэтай пары не сабрана ні залатоўкі.

У матывацыі прапанаваных у законе змен знайшлася канстатацыя, што павелічэнне цэнтральнага сацыяльнага фонду вынікае з неабходнасці, цытую, „больш поўнага заспакаення патрэб сельскагаспадарча слабейшых гмін", гмін, якія ў іншых урадавых дакументах зграбна названы праблемнымі гмінамі.

**Факт, што я балаціраваўся і быў выбраны паслом з акругі, дзе амаль усе гміны — гэта гміны праблемныя, прымушае мяне звярнуць увагу Высокай Палаты, а перш за ўсё ўраду, на праблему ўсходняй Беласточчыны.**

Высокі Сейм!

Ёсць у Польшчы невялікі рэгіён, разам 20 гмін паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, дзе кампактна пражывае беларускае і ўкраінскае насельніцтва, якое ад тысячы гадоў вызнае праваслаўную веру. Іменна тут, на Падляшшы, маем прыклад шматвяковага суіснавання культур каталіцкага захаду і праваслаўнага ўсходу, прыклад, які так зачароўвае навукоўцаў, паэтаў і пісьменнікаў. Гэты рэгіён, у параўнанні да мінуўшых стагоддзяў, з'ўляецца ўсходнімі крэсамі ў маштабе мікра, да якіх з такой пашанай адносяцца многія палякі. Можна сказаць, што

(Працяг на стар. 2)

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



У канцэрце „Сустрэча з беларускай песняй", які адбыўся 24 лістапада ў Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку, выступіў калектыў акардэаністаў. Працуе калектыў пад кіраўніцтвам настаўніка Сцяпана Копы. У калектыве граюць: Паўлік Туркоўскі, Януш Радзівонскі, Адам Врубель, Паўлік Гап, Адам Рошка і Крыштоф Давідзюк. Фота Яніны Чэрнякевіч. (Аб канцэрце чытай у „Ніве".)

РЫХТУЕМСЯ ДА ЁЛКІ




**Ганна Іванова**

**Пачатак у папярэднім нумары**

БУЛЬБІНКА
Толькі,
Саўка,
ты спачатку
адгадай маю загадку.
Чыю любіш кашку?
Чыю любіш казку?
Чыю любіш ласку?
Хто
для цябе,
для братоў,
для сястрычкі
цэлае лета вязаў рукавічкі?
Хто пірог пячэ на свята?
Каго
слухаюцца
мама і тата?
САЎКА *(шэптам)*
Дзеці!
Мне дапамажыце!
Адкажыце!
Падкажыце!
*(Прыслухоўваецца да падказак і адказвае.)*
Цы-бу-лю!
КАЗА
Ха-ха-ха!
Слухаюцца цыбулю!
САЎКА
*(Падумаўшы, пачасаў патыліцу)*
Не!
Я... гэта...
не цыбулю...
Я хацеў сказаць:
ба-бу-лю.
О! Бабуля мяне паважае!
За маё паслушэнства
мне дагаджае!
Бо ўнук я —
не добры!
Не! Не добры!
Я ўнук — выдатны!
Мяне бабуля гэтак шануе —
адными пірагамі частуе!
БУЛЬБІНКА
А мы зараз перакананемся,
як у бабулі тваёй запытаемся!
*(Выходзіць бабуля. Адразу ж хапае Саўку за вуха.)*
БАБУЛЯ
Хто акно пабіў,
на ката зваліў?
Хто смятанку злізаў
і на брата сказаў?
Хто тэлевізар паламаў?
Хто пяць двоек атрымаў
і свой дзённік
у макулатуру здаў?
САЎКА
Ой, бабулечка,
пусці!
Трэба ў школу мне ісці!
Дай ты мне падсілкавацца —
пірагом пачаставацца!
БАБУЛЯ
Ты ў мяне
пачастунку атрымаеш,
як бярозавай кашы
паспытаеш!
*(Бабуля пайшла. Раптам Каза пачынае плакаць.)*
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Што ты, Каза, зажурылася?
Раней ты жыла — весялілася!
А зараз у бубен
не б'еш, не скачаш!
А зараз ты горка плачаш!
Мо, Козачка, ты захварэла —
замнога канюшыны паела?
*(Каза горка плача. Саўка дражніць яе і скача.)*
САЎКА
Крыкса!
Плакса!
Чорная вакса!
Наплачу ў кош!
Прадам за грош!
Крыкса! Плакса!
Чорная вакса!
БУЛЬБІНКА *(з дакорам)*
Саўка!
Сорам! Сорам!
*(Гладзіць Казу па галаве.)*
Скажы, Козачка,
скажы рагатая,
Чаму ты сёння на слёзкі
багатая?
КАЗА
Ой, як горка!
Ой, як горка!
Ой, як сэрцайка баліць!
Бо ні Юзік, ні Рыгорка
малака не хочуць піць!
Налілі Сцяпанку —
ён адсунуў шклянку.
І малая Любачка
не дапіла кубачка.
Карова з гора пайшла таніцца.
І я не магу не журыцца!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Бульбінка!
Бяжы да вады!
Адгавары карову ад бяды!
*(Бульбінка пабегла.)*
Не журыся, Каза!
Тутэйшыя дзеці
любяць малако
больш за ўсё на свеце!

**(Працяг на стар. 10)**

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**КАТОК — ЗАЛАТЫ ЛАБОК**
**Беларуская народная казка**

Жыў дзед з бабай. Былі яны вельмі бедныя: ні насіць няма чаго, ні варыць.

Баба кажа:

— Вазьмі, дзеду, тапарок, паедзь у лясок, ссячы дубок, завязі на рынак, прадай і купі гарчык мукі. Спячом хлеб.

Сабраўся дзед, паехаў у лясок, пачаў секчы дубок.

Выскачыў з дубка каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак, паслала мяне баба ссекчы дубок, завезці на рынак, прадаць і купіць гарчык мукі на хлеб.

— Едзь, дзед, дахаты: будзе ў вас мука!

Прыехаў дзед, а ў яго мукі повен засек!

Спякла баба хлеб, сама наелася, дзеда накарміла ды кажа яму.

— Не шкодзіла б цяпер і заціркі наварыць. Ды солі няма. Вазьмі, дзеду, тапарок, паедзь у лясок, стукні ў дубок, ці не выскачыць каток — залаты лабок: папрасі ў яго солі.

Узяў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!.. Выскачыў каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак: хлеб ёсць — солі няма.

— Едзь, дзед, дахаты: будзе соль!

Прыехаў дзед, а ў яго солі дзежка стаіць.

Наварыла баба заціркі, сама наелася, дзеда накарміла ды кажа яму:

— Не шкодзіла б цяпер і капусты паспытаць. Вастры, дзеду, тапарок, едзь у лясок, стукні ў дубок, ці не выскачыць каток — залаты лабок: папрасі ў яго капусты.

Навастрыў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!.. Выскачыў каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак: хлеб ёсць, соль ёсць — капусты няма!

— Едзь, дзед, дахаты: будзе капуста!

Прыехаў дзед дахаты, а ў яго капусты поўная кадушка! Баба кажа:

— Ай, як добра! Вось каб цяпер яшчэ сальца... Мы б з табою капусты наварылі, сальцам закрасілі б. Не палянуйся, дзеду: вазьмі тапарок, паедзь у лясок, стукні ў дубок, ці не выскачыць каток — залаты лабок: папрасі ў яго сальца.

**(Працяг на стар. 10)**

**А. Паскробышаў**

## ГРОНКА РАБІНЫ

Хочацца Толіку прабегчыся па першым снезе, ды вось толькі бабуля, як назнарок, ніяк не прышые рукаў да яго футрачкі. І — хочаш не хочаш — даводзіцца чакаць хлопчыку, зайздрасна пазіраць у акно, за якім усё бялютка-бялютка — стрэхі, дрэвы, хмызы. Ноччу выпаў першы снег. Надзеў на слупы платоў пульхныя шапкі, зрабіў, каб усім было цёпла.

А тым часам бабуля каторы раз спрабуе ўцягнуць нітку ў іголку, але ў яе нічога не атрымоўваецца.

— Унучак, дапамажы ты мне, калі ласка, нешта я дрэнна бачу ўжо.

Вочы ў Толіка — ого! Не паспела бабуля і азірнуцца, як Толік падае ўжо ёй іголку з даўжэзнай, бо сам адкусваў, ніткай. Бабуля бярэцца за работу, добрыя зморшчынкі ля яе вачэй разгладжваюцца, і за працай яна не заўважае, як унук хуценька сцягвае з крэсла бабульчыну кофту і выбягае за дзверы.

Вецер у тую ж хвіліну паказаў, што ён моцны: штурхануў хлопчыка ў спіну, ледзь толькі той апынуўся на вуліцы. Нідзе аніводнага следу... І не заўважыў хлопчык, як ён апынуўся каля рабіны, што стаіць ля варот дзядзькі Хведара. Гронкі яе толькі потым пацямнеюць. Таты, калі возьмецца мароз. Пакуль што яны хаця і прывялыя, але чырвоныя-чырвоныя. Як снегіры. Ну, нельга ж не дастаць такое дзіва! Толік пацягнуўся раз-другі, каб сарваць чырвоную гронку рабіны, якая, здавалася, вісіць зусім нізка над галавой. Але дзе там!

Пазайздросціў Толік чырвонагрудай птушцы, якая сядзела на галінцы, як жывая гронка, і спакойна дзяўбла рабінавыя ягады, такія прыгожыя і, здаецца, вельмі смачныя.

— А хто гэта на цябе бабуліну кофту надзеў? — пачуў Толік раптам голас дзядзькі Хведара, які стаяў на ганку.

— А... Гэта я сам, — разгублена адказаў хлопчык і зноў пераводзіць позірк на рабіну, дзе сядзіць птушка.

— Вунь што цябе цікавіць?! Яна кожную раніцу наведвае мяне, ніякай абароны няма, — працягвае дзядзька Хведар, закасваючы рукавы кофты хлопчыку. — А зараз хуценька дадому! — ужо стражэй кажа ён.

Але хлопчыку зусім не хочацца ісці адсюль. Тады дзядзька Хведар зрывае самую вялікую прыгожую гронку рабіны і падае Толіку:

— Гэта табе, бяры.

Вочы хлопчыка заблішчэлі, і ён не ўтрымаўся, каб не пакаштаваць ягадку. Кірпаты нос яго адразу ж зморшчыўся — і кіславата, і гаркавата, а такая ж гожая! Дзядзька Хведар засмяяўся.

— Толік, унучак, дзе ж ты падзеўся? — пачуўся бабульчын голас. — Толік!

Хлопчык хуценька пабег да бабулі і працягнуў ёй рабінавую гронку.

— Бабулька, не сварыся, я толькі на хвіліначку бегаў да дзядзькавай рабіны па падарунак для цябе! Ты не сярдуй!

Бабуля лагодна ўсміхнулася.

— То дзякуй. Гэта вельмі прыгожыя і смачныя ягады ўзімку, як падмерзнуць. Але ж трэба і апранудца, тады можаш і пагуляць крышку. — Бабуля памагла хлопчыку надзець футрачку. — Ягады хай мерзнуць, а табе не трэба.

### Вершы Віктара Шведа

**СЯРОЖКУ ГРЫМІЦЬ У ЛОЖКУ**

Шалее ноччу бура,
І гром і бліскавіца,
Мярцвее ажно скура,
Хлопцу ніяк не спіцца.

— Вазьмі мяне, мамуся, —
Будзіць маму Сярожка, —
Бо сам я спаць баюся,
Грыміць у маім ложку.

### Пішуць школьнікі

**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

Мы, вучні трэцяга класа школы ў Храбалах, вельмі любім чытаць „Ніву", а асабліва „Зорку".

Наша школа вялікая, новая! У ёй вучыцца 150 дзяцей.

Нядаўна адбыўся ў нас у школе дэкламатарскі конкурс беларускіх вершаў. Першае месца заняла Кася Коршак і Марта Мрачынская, а другое — вучаніца нашага класа Марта Аляксеюк.

Некалькі дзён таму у нас быў бацькоўскі дзень. Наша выхавацелька расказала нашым мамам і татам пра паводзіны і вучобу кожнага з нас. Лішне не наракала на нас і не скардзілася.

Дарагая „Зорка"! Мы вельмі любім маляваць. Неўзабаве вышлем Табе нашы малюнкі.

З прывітаннем
**вучні трэцяга класа школы ў Храбалах**
(сем прозвішчаў).

**(Працяг са стар. 9)**

**КАТОК — ЗАЛАТЫ ЛАБОК**

Узяў дзед тапарок, паехаў у лясок, стук у дубок!.. Выскачыў каток — залаты лабок, залатое вушка, срэбранае вушка, залатая шарсцінка, срэбраная шарсцінка, залатая лапка, срэбраная лапка.

— Дзед, дзед, што табе трэба?

— Ды вось, каточак, мой галубочак: просіць яшчэ баба сальца да капусты.

— Добра, дзед, едзь дахаты: будзе сала!

Прыязджае дзед, а ў яго сала кубелец!

Рады дзед і баба. Сталі яны жыць-пажываць, дзецям казкі казаць. І цяпер жывуць, хлеб жуюць, капустаю з салам закусваюць.

Вось вам казка, а мне абаранкаў вязка.

**У апрацоўцы Алеся Якімовіча**




**(Працяг са стар. 9)**

Болей, чым марожанае
і пепсі-колу!
Носяць збаночкі з малаком
у школу —
каб падсілкавацца
на перапынку.
*(Прыбягае радасная Бульбінка.)*
БУЛЬБІНКА
Ты таксама
перапыніся на хвілінку!
Карова тапіцца не будзе!
Карова пасецца на лузе!
САЎКА
Я вось таксама
люблю малако...
КАЗА
Саўка і дражніцца,
Саўко і хвалько...
А ўсё-такі
трэба адзначыць Саўку:
ён як п'е малако —
то просіць дабаўку!
*(Саўка падыходзіць да Казы, пэўна, просіць у яе прабачэння.)*
САЎКА *(усхліпваючы)*
Я гэтак хачу,
каб мяне любілі!
Я гэтак хачу,
каб мяне хвалілі
не за дабаўку,
а за добрыя ўчынкі.
Памажыце мне выправіцца,
хлопчыкі і дзяўчынкі!
КАЗА
Дапамогуць,
Савацей!
Толькі й сам ты папацей!
Не хлусі, не мані!
У падручнік зазірні!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Хочаш выпраўляцца —
трэба пастарацца!
БУЛЬБІНКА
І няма чаго баяцца!
КАЗА
Трэба нам ужо ў дарогу.
Дзякуй, госці, за падмогу!
Вы так дружна рагаталі,
нас так хораша віталі:
пляскалі ў ладкі,
адгадвалі загадкі,
на пытанні адказвалі.
САЎКА
І мне падказвалі!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
І шкада, а ўсё ж —
бывайце!
БУЛЬБІНКА
Толькі нас не забывайце!
САЎКА
Дружна жывіце!
КАЗА
Хутка расціце!
ЖЫТНЁВЫ КАЛАСОК
Край свой любіце!
БУЛЬБІНКА
І не таму любіце,
што за ўсё цяплейшы
ці прыгажэйшы,
а таму любіце,
што за ўсё мілейшы,
за ўсё даражэйшы!

**Заслона**




* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 2. Павел Сакольчык. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 27, кв. 14. Кірыл Ждановіч. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 2. Аня Сакольчык. 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 120. Лена Сяўбо. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 25, кв. 51. Дзіма Кудзін. 8 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 1, кв. 16. Максім Краўцоў. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 41. Сяргей Латушкін. 8 клас.

* * *

БССР, 220007, г. Мінск-7, вул. Ляўкова 10, кв. 39. Ілона Майсеенка. 6 клас.



**АДГАДАНКА**

Каго спалохаліся гусі і куры, ды так, што аж перакулілі карытка? Паглядзі ўважліва на малюнак. Каб лягчэй было дадумацца, паспрабуй размаляваць карцінку каляровымі алоўкамі.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка"

